# Голас Радзімы

№ 35 (2073)
1 верасня 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ (БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Брэсцкая сярэдняя школа № 9 — адна з тых дзевяноста школ краін свету, якія ўваходзяць у сістэму асацыіраваных школ ЮНЕСКА. Тут, як і ў іншых савецкіх школах, вядзецца вялікая і цікавая работа па выхаванню школьнікаў у духу міру і дружбы паміж людзьмі розных краін, дзяцей вучаць паважаць гістарычныя традыцыі і культуру іншых народаў. У школе дзейнічае добра абсталяваны цэнтр вылічальнай тэхнікі, дзе вучні вывучаюць асновы інфарматыкі, набываюць навыкі і вопыт праграміравання. Сваім багатым педагагічным вопытам настаўнікі школы дзеляцца з калегамі іншых гарадоў СССР.

НА ЗДЫМКУ: заняткі ў школьным цэнтры вылічальнай тэхнікі.

Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.

ЭКАНАМІЧНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

## «АИСТ» ЛЯЦІЦЬ У ПОЛЬШЧУ

Буйную партыю матацыклаў вырабіў для ПНР Мінскі мотавелазавод. Умацоўваючы прамыя сувязі з прадпрыемствам «Ромет», якое знаходзіцца ў Быдгошчы, спецыялісты змаглі ўлічыць сур'ёзныя патрабаванні польскага рынку. Згодна дагавору, «Аисты» будуць дакамплектоўвацца і часткова дапрацоўвацца «Рометам».

Асновай для выпуску навінкі ў абедзвюх краінах стануць распрацаваныя і надзейна правераныя уніфікаваныя вузлы і дэталі. Цяпер спецыялісты ўважліва аналізуюць характарыстыкі лепшых сучасных мадэлей.

Акрамя «Ромета», дзелавыя і творчыя сувязі з мінчанамі сёння развіваюць вядучыя фірмы Японіі, Італіі, ФРГ, Індыі, іншых краін.

ЛІКВІДАЦЫЯ ЗБРОІ



Невялікая вёсачка Станькава, якая размешчана за дзесяць кіламетраў ад раённага цэнтра Дзяржынск, за пяцьдзесят — ад Мінска, была раней вядома тым, што тут нарадзіўся юны герой Вялікай Айчыннай вайны Марат Казей, ды, бадай, яшчэ сваім старажытным паркам на беразе рэчкі Усы. Сёння на палітычнай карце свету беларуская вёска Станькава абазначана як месца, дзе ў цесным супрацоўніцтве і ўзаемаразуменні працуюць савецкія і амерыканскія спецыялісты ў галіне ўзбраенняў. У адпаведнасці з дагаворам паміж СССР і ЗША аб скарачэнні і ліквідацыі ракет меншай і сярэдняй дальнасці тут ідзе ліквідацыя пускавых установак і транспартных сродкаў ракет ОТР-22.

НА ЗДЫМКУ: прад'яўленне амерыканскай інспекцыі вузлоў і дэталей, якія падлягаюць кантролю.

САЦЫЯЛЬНАЕ РАЗВІЦЦЁ

## НАЗВАЛІ ВУЛІЦУ ЮБІЛЕЙНАЙ

Цэлую вуліцу з дзесяці ўтульных катэджаў здалі «пад ключ» будаўнікі ў вёсцы Кракаўка — цэнтральнай сядзібе лепшага ў Ашмянскім раёне калгаса «Маяк». Выкананы важны пункт комплекснай праграмы гаспадаркі па забеспячэнню калгаснікаў жыллём. Вяскоўцы на агульным сходзе вырашылі назваць новую вуліцу ў гонар 70-годдзя БССР і Кампартыі Беларусі Юбілейнай. Па вечарах тут будзе весела, таму што ўсе ордэры атрымалі маладыя механізатары, жывёлаводы, культасветработнікі.

Напярэдадні юбілею БССР і Кампартыі рэспублікі ў Кракаўцы вырасце яшчэ адна такая вуліца. Дваццаць пяць калгаснікаў пераселяцца ў дамы з усімі гарадскімі зручнасцямі. А да 1990 года гаспадарка, якая актыўна выкарыстоўвае індывідуальнае будаўніцтва, плануе поўнасцю забяспечыць сваіх працаўнікоў жыллём.

КААПЕРАТЫВЫ

## КОЛЬКІ КАШТУЕ РУБЕЛЬ?

Рашэнне, прынятае праўленнем кааператыва «Дызайн» пры Беларускім філіяле Усесаюзнага інтытута тэхнічнай эстэтыкі, на першы погляд здасца дзіўным: цэны на дызайн-праекты і даследаванні зніжаны ў два разы. Таннейшай стала прадукцыя зусім не таму, што на яе знізіўся попыт — ад заказчыкаў у кааператараў няма адбою. Выкананыя імі эскізы складаной бытавой тэхнікі, станкоў і прыбораў, апаратаў і рабочых памяшканняў прыгожыя, сучасныя, эканамічныя.

Творчыя ўдачы, шчырую падзяку заказчыкаў, магчымасць праявіць сябе, а не матэрыяльную выгаду паставілі на першы план мастакі і канструктары. І гэта яшчэ адзін важкі аргумент на карысць розных форм кааперацыі.

ЗЕМЛЯРОБСТВА

## ЭЛІТА НА КАНВЕЕРЫ

Звыш двух дзесяткаў калгасаў і саўгасаў атрымалі статус спецыялізаваных прадпрыемстваў па паскоранай вытворчасці элітнага насення для гаспадарак рэспублікі. Аб'яднаўшыся на добраахвотных асновах, яны разам з Беларускім навукова-даследчым інстытутам земляробства ўвайшлі ў састаў навукова-вытворчай сістэмы «Белнасеэліта». Новае падраздзяленне не запатрабавала павелічэння штатаў.

Навукова-вытворчая сістэма літаральна развязала рукі вучоным-селекцыянерам. Раней, выводзячы новыя сарты, аўтары самі займаліся іх укараненнем. Прычым, не заўсёды паспяхова. Перш чым навінкі траплялі на палі, яны доўгія гады «абкатваліся» на доследных дзялянках. Атрымаць дастатковую для масавых пасеваў колькасць насення не ўдавалася. Схема новых узаемаадносін, адпрацаваная на базе доследна-эксперыментальных гаспадарак інстытута, такая: земляробы за частку аддадзенага вучоным прыбытку атрымліваюць тэхналогію і своечасовыя кансультацыі. Размножанае насенне эліты перадаецца ў калгасы і саўгасы. Шлях новага сорту да палёў скарачаецца ўдвая.

РАСПРАЦАВАЛІ ВУЧОНЫЯ

## БЫЦЬ ПАВЕТРУ ЧЫСТЫМ

Індустрыяльны пейзаж без смогу, без шлейфаў дыму, што падпіраюць неба? Такая карціна можа стаць рэальнай. У гэтым пераконваюць вынікі выпрабаванняў адной з апошніх распрацовак вучоных Інстытута фізіка-арганічнай хіміі АН БССР — валакністых іонаабменных матэрыялаў фібан.

Прызначаныя для выдалення з газаў, вадкасцей пабочных прымесей, яны атрымліваюцца ў выглядзе звычайных на першы погляд валокнаў, ніцей і тканін.

Навінка ўжо ўкаранёна на адным з хімічных прадпрыемстваў у Эстоніі.

КУЛЬТУРА

## ЛІТАРАТУРНЫ МУЗЕЙ

Савет садзейнічання Савецкаму фонду культуры калгаса «Семежава» Капыльскага раёна выступіў з ініцыятывай стварыць у Капылі літаратурны музей. Яго мяркуецца размясціць у будынку былой царквы, які патрабуе рэстаўрацыі. На арганізацыйным пасяджэнні савета дамоўлена пералічыць для гэтых мэт на рахунак № 702 Беларускага рэспубліканскага аддзялення Савецкага фонду культуры шэсць тысяч рублёў.

Ініцыятыва семежаўцаў знайшла падтрымку. Савет садзейнічання Савецкаму фонду культуры калгаса «Кастрычнік» вырашыў перадаць для стварэння літаратурнага музея тры тысячы рублёў.

СТУДЭНЦКАЯ ДАПАМОГА

## З ДАЛЁКАГА УЗБЕКІСТАНА

Сёлета ў вёскі Віцебскай вобласці прыехалі 275 студэнтаў сярэднеазіяцкай рэспублікі Узбекістан. Яны працуюць на аб'ектах меліярацыі, будаўніцтве жылых дамоў і дарог у Лёзненскім, Глыбоцкім, Бешанковіцкім, Докшыцкім і інш. раёнах.

Прыезд гасцей ускалыхнуў і работу мясцовай моладзі. Узбекскія студэнты праводзяць сустрэчы з моладдзю беларускіх калгасаў і саўгасаў, вечары дружбы. Надоўга запомніцца ім фестываль дружбы ў Оршы, дзе сустрэліся беларускія і ўзбекскія будаўнічыя атрады.

Усяго ў працоўным семестры на будоўлях Беларусі сёлета ўдзельнічаюць больш за дзве тысячы студэнтаў з Арменіі, Казахстана, Украіны, Таджыкістана, Расійскай Федэрацыі — пасланцы 47 гарадоў краіны.

ДЛЯ ЮНЫХ ЖЫХАРОЎ МІНСКА

## ЭЛЕКТРОННЫ АДПАЧЫНАК

Любы юны жыхар Мінска можа выступіць у ролі пілота самалёта або ўцячы ад пагоні і дастаць з глыбокай шахты скарб, калі ён наведае сярэднюю школу № 53, у якой адкрыўся камп'ютэрна-гульнявы цэнтр. Новую платную паслугу насельніцтву прапанаваў Навукова-даследчы інстытут электронных вылічальных машын. З усяго горада сюды прыязджаюць дзеці пазнаёміцца з камп'ютэрам, паспрабаваць сябе ў гульні.

А для самой школы НДІ ЭВМ абсталяваў персанальнымі камп'ютэрамі клас інфарматыкі, у якім школьнікаў абучаць апаратарскаму і праграмісцкаму майстэрству. Цяпер дзесятыя класы будуць займацца па агульнадзяржаўнай праграме, дзевятыя — факультатыўна, пятыя-шостыя — гуляць пад кіраўніцтвам старшакласнікаў.

ГАСТРОЛІ

## ПАКАРЫЛІ СЭРЦЫ

Народны ансамбль танца «Завіруха» Пружанскага раённага Дома культуры вярнуўся з Іспаніі.

Гэты калектыў прымаў удзел у міжнародных фестывалях фальклорнага мастацтва, якія праходзілі ў шэрагу гарадоў гэтай краіны.

Пружанскія танцоры далі больш як 20 канцэртаў, выступілі ў рабочых кварталах. Праграма з беларускіх народных танцаў, абрадавых кампазіцый, а таксама танцаў народаў СССР пакарыла сэрцы іспанскіх аматараў фальклору.

КАНЦЭРТ У ПАРКУ

## 35 ДЗЯЎЧАТ І АДЗІН ЮНАК

У апошні час значна пашыраюцца культурныя сувязі паміж СССР і ЗША. Перад гледачамі Мінска ўжо выступіла 15 мастацкіх калектываў з Амерыкі.

Напрыклад, у Цэнтральным дзіцячым парку імя Горкага з вялікім поспехам прайшоў канцэрт самадзейнага танцавальнага ансамбля «Гэйтхэй балет» з горада Сэнт-Луіса. Трыццаць пяць дзяўчат і адзін юнак на працягу паўтары гадзіны паказалі мінчанам тэмпераментныя танцы, балетныя сюіты. Кожны нумар гасцей з-за акіяна мінчане сустракалі гарачымі апладысментамі. Гледачы засталіся ўдзячнымі самадзейным артыстам, іх мастацкаму кіраўніку Норме П'ютэль.

МІРНАЯ АКЦЫЯ

## У ПАЕЗДКУ ПА РЭСПУБЛІЦЫ

Па дарогах Беларусі адправіўся першы рэспубліканскі аўтапоезд «Мір народам планеты». Больш як 100 замежных студэнтаў, якія навучаюцца ў розных вышэйшых навучальных установах БССР, на працягу тыдня праедуць па маршруту Баранавічы — Брэст — Калінкавічы — Гомель.

Асноўная мэта аўтапоезда — знаёмства зарубежнай моладзі з краем, у якім яна вучыцца і жыве не менш як пяць гадоў. Студэнты пабываюць на буйных прамысловых прадпрыемствах Беларусі, сучасных аграпрамысловых комплексах, наведаюць гістарычныя мясціны, запаведнікі, бліжэй пазнаёмяцца з побытам жыхароў рэспублікі.

ПАДАРЫЛІ СВЯТА

## ЗАПРАСІЛІ НА ІМЯНІНЫ

Бураціна, Васіліса Прыгожая, іншыя героі любімых дзіцячых казак запрасілі дзяўчынак і хлопчыкаў з вёскі Лоск Валожынскага раёна на незвычайнае свята — «Толькі раз у год». Такую назву далі арганізатары гэтай урачыстасці — работнікі мясцовага Дома культуры — у гонар тых, чый дзень нараджэння выпаў на летнюю пару. А дарослыя паклапаціліся, каб на свяце былі любімыя мультыплікацыйныя фільмы, бяспройгрышная латарэя, гульні, песні, танцы, ласункі на любы густ.

Апошні месяц школьных канікулаў падарыў вясковым дзецям свята, якое стане тут традыцыйным. А ў планах мясцовых культработнікаў ужо значыцца правядзенне такіх дзён імяннініка і ў іншых населеных пунктах.

СФЕРА ПАСЛУГ



У старажытным Віцебску з'явілася яшчэ адно кафэ — «Бульбяная». Жыхары і госці горада паспелі ацаніць асартымент і смак прыгатаваных тут страў. Абслугоўванне арганізавана па тыпу шведскага стала. Гэта значыць, што, купляючы талон на ўваход коштам 2 рублі, кліент выбірае па смаку любую страву і ў пажаданай колькасці. Акрамя разнастайнага меню, наведвальнікаў прыцягвае і ўтульны сучасны інтэр'ер, хуткае абслугоўванне.

НА ЗДЫМКУ: у абедзеннай зале кафэ.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

ШЧУЧЫН. Масавую адгрузку лекавай сыравіны пачаў саўгас «Вялікае Мажэйкава» Шчучынскага раёна — адзіная ў Беларусі гаспадарка, якая спецыялізуецца на яе вырошчванні.

У розныя канцы краіны фармацэўтычным прадпрыемствам адсюль ужо адпраўлена 150 тон рамонку, валяр'яну, сардэчніку, наготак і спарыньні.

ГРОДНА. Першыя аўтобусы, што працуюць на сціснутым прыродным газе, з'явіліся на вуліцах і некаторых прыгарадных маршрутах Гродна. На экалагічна чыстае паліва пераведзена і значная частка грузавога транспарту аўтагаспадаркі. Гэта стала магчымым дзякуючы пуску ў абласным цэнтры першай аўтамабільнай газанапаўняльнай кампрэсарнай станцыі. Кожныя суткі яна здольна абслужыць 500 машын.

БРЭСТ. Па душы прыйшлася навінка, уведзеная работнікамі Брэсцкага паштамта, жыхарам многіх аддаленых і маленькіх вёсак прыгарадная раёна. Іх сталі абслугоўваць перасоўныя аддзяленні сувязі. У пэўны час прыходзіць спецыяльная аўтамашына, на якой сувязісты паштамта прывозяць адрасаваную сюды карэспандэнцыю.

## ПЕРАБУДОЎВАЕЦЦА РАБОТА АКАДЭМІІ

# НАВУЦЫ ПАТРЭБНЫ ЛІДЭРЫ

**Зусім нядаўна ў гэтым службовым кабінеце ўсё дыхала манументальнасцю: велізарны разны стол з цяжкімі прыборамі, двухметровы падлогавы гадзіннік, які кожную чвэртку гадзіны напамінаў наведвальніку аб высокім кошце прэзідэнцкага часу. Зараз—спартанскі інтэр'ер. І калі б пра перамены ў Акадэміі навук Беларускай ССР можна было меркаваць толькі па кабінеце прэзідэнта, дык яны відавочныя.**

**Мой субяседнік—49-гадовы акадэмік Уладзімір ПЛАТОНАЎ. Матэматык з міжнародным імем, ён узначаліў штаб беларускай навукі паўтара года назад.**

*Канцэпцыя перабудовы ў навуцы дастаткова простая і прыдатная не толькі ў акадэмічных інстытутах, лічыць акадэмік Платонаў. Ён так выказвае сваё крэда:*

— У навуцы ўсё або амаль усё вырашаюць таленавітыя асобы. На жаль, тэзіс гэты часта забываўся, хаця менавіта ён у многім вызначае поспех работы даследчых калектываў. Узначальваць іх павінен вучоны, які здольны генерыраваць нестандартныя ідэі і на іх аснове атрымліваць вынікі сусветнага класа.

Калі няма такіх лідэраў, то як бы добра ні быў аснашчаны інстытут, якія б наватарскія формы кіравання ні прымяняліся, на сур'ёзны вынік разлічваць цяжка. Бо сума намаганняў пасрэднасцей ніколі не прывядзе да прарыву, нават калі яны будуць праяўляць максімум стараннасці.

Разам з тым лёгкіх адкрыццяў у навуцы не бывае і для самых таленавітых вучоных. Яны заўсёды вынік гранічнага напружання сіл і таленту. Галоўнае, каб лідэры працавалі ў перспектыўных, прыярытэтных кірунках даследаванняў. Колькі разоў бывала, калі выдатны вучоны браўся за хадавую, але не вельмі глыбокую тэму, атрымліваў нядрэнныя вынікі, ад якіх, аднак, мала залежыць прагрэс навукі.

*— Якія працы вучоных Акадэміі навук Беларусі на прыярытэтных кірунках навукова-тэхнічнага прагрэсу вы б адзначылі?*

— Гэта, напрыклад, фундаментальныя даследаванні ў сферы мікраэлектронікі—матэматычнае забеспячэнне аўтаматызацыі праектавання звышвялікіх інтэгральных схем. Сусветную вядомасць маюць таксама распрацоўкі ў лазернай фізіцы і нелінейнай оптыцы, крышталяоптыцы. Створана лазерна-аптычнае і спектральнае прыборабудаванне. На ўзроўні лепшых сусветных дасягненняў даследаванне працэсаў цепла- і масапераносу ў капілярна-порыстых целах пры магутных патоках цеплавога выпраменьвання, а таксама эфектыўныя тэхналогіі ўмацавання металаў. Вынікі высокага класа—у распрацоўцы праблем фотасінтэзу і нейрафізіялогіі.

*— І ўсё-такі не сакрэт, што ў Акадэміі навук Беларусі — недахоп лідэраў, кадравы голад. Якім бачыцца выхад з гэтай сітуацыі?*

— Становішча такое склалася не адразу. Час няўмольны—адышлі многія аўтарытэты, і аказалася, што маладой змены, здольнай падняць планку дасягненняў сваіх настаўнікаў, у некаторых галінах даследаванняў, на жаль, няма. Дала вынікі практыка ранейшых гадоў, калі маладых таленавітых вучоных доўга не хацелі заўважаць, а то і свядома перашкаджалі ім раскрыцца, паказаць свае сапраўдныя магчымасці. Такое бывала не толькі ў навуцы. І таму найпершая задача перабудовы беларускай акадэмічнай навукі — усямерна заахвочваць пошук сталых, прызнаных вучоных, актывізаваць работу маладых даследчыкаў. Залучыць, калі спатрэбіцца, таленавітых людзей з вытворчасці, з вышэйшых навучальных устаноў, стварыць ім усе ўмовы, неабходныя для атрымання вынікаў сусветнага класа.

Мы прынялі рашэнне штогод абнаўляць мінімум пяць працэнтаў супрацоўнікаў інстытутаў за кошт прыёму на работу маладых спецыялістаў.

Рэзерв выхавання лідэраў—і ў развіцці ўнутрыакадэмічнай дэмакратыі. У сістэму выбараў, якая заўсёды была адным з паказчыкаў сапраўднага дэмакратызму акадэміі, унесены істотныя змены: правы навуковых калектываў пашыраны, яны набылі яшчэ большую самастойнасць.

*— Адна з прэтэнзій да акадэмічнай навукі — недастаткова высокі ўклад у рашэнне канкрэтных народнагаспадарчых задач.*

— На жаль, прэтэнзіі небеспадстаўныя. Зараз узводзяцца больш шырокія масты ад фундаментальнай навукі да практыкі. Гэта—міжгаліновыя рэспубліканскія навукова-тэхнічныя праграмы. Некаторыя з іх ужо створаны. Галоўная мэта праграмы «Машынабудаванне», напрыклад,—рэзкае павышэнне якасці, надзейнасці і эканамічнасці прадукцыі галіны, забеспячэнне яе канкурэнтаздольнасці на сусветным рынку. Павінен сказаць, што ўжо атрыманы нядрэнныя вынікі.

Рэалізуецца буйная праграма «Інфарматыка і вылічальная тэхніка». Яна ўключае, у прыватнасці, распрацоўку элементнай і матэматычнай базы для вылічальнай тэхнікі новых пакаленняў, стварэнне інтэграваных сістэм для аўтаматызацыі праектных работ і кіравання вытворчасцю.

Для паскорана рашэння праблем аграпрамысловага комплексу краіны адпрацоўваюцца прыёмы генетычнай і клетачнай інжынерыі. Мэта—скарачэнне тэрмінаў селекцыі, вывядзенне высокаўраджайных сартоў збожжавых культур і [illegible], стварэнне бактэрыяльных [illegible] угнаенняў, біялагічных прэпаратаў для аховы раслін.

Трэба сказаць, што перабудова, якая ідзе ў СССР, закранула самі адносіны да выбару навуковых тэм. У многіх інстытутах уведзены конкурсны прынцып адбору навуковых кірункаў, пры якім прыярытэт аддаецца найбольш актуальнай праблематыцы, дзе можа быць забяспечаны выхад на вынікі сусветнага ўзроўню або якія перавышаюць яго. Менавіта тэматыка будзе вызначаць кадравую структуру інстытутаў і лабараторый, а не наадварот. Перабудоўваецца фінансаванне даследаванняў. Сродкі выдзяляюцца не на ўтрыманне штату, а на вырашэнне пэўнай навуковай задачы.

*— Зараз шмат гавораць аб пераводзе навукі на гаспадарчы разлік і самафінансаванне. Для галіновых даследных цэнтраў гэта ўжо рэальнасць...*

— Вядома, што новы эканамічны механізм, які ўкараняецца ў савецкай народнай гаспадарцы, арыентаваны на непасрэднае ўключэнне навукі ў вытворчасць. Значыць, прадпрыемствы павінны разглядаць навуковыя ідэі як тавар, кошт якога залежыць ад цаны навукоўцаў праекта і будучай эфектыўнасці канчатковага прадукта. Прадпрыемства, якое зацікаўлена ў хуткім прагрэсе, я думаю, не павінна скупіцца на аплату каштоўных ідэй. У той жа час узрастае адказнасць вучоных: работнікі вытворчасці купяць сапраўды самае лепшае. У гэтым мне бачыцца вялікая карысць укаранення гаспадарчаразліковых пачаткаў у адносінах да навукі і практыкі.

Безумоўна, не ўся навука можа быць пераведзена на самафінансаванне. Акадэмічная і звязаная з вышэйшымі навучальнымі ўстановамі, для якіх характэрны працяглы пошук ідэй, павінны заставацца на дзяржаўным бюджэце. Наша мэта—стварыць такія эканамічныя ўмовы для любога калектыву і асобнага супрацоўніка, пры якіх яны былі б кроўна зацікаўлены ў высокім выніку даследаванняў, а ў выпадку поспеху—маглі разлічваць не толькі на маральнае заахвочванне, але і на прыкметную матэрыяльную ўзнагароду.

Гутарку вёў Яўгеній ГАРЭЛІК.






**У калгасе «Маяк» Ашмянскага раёна створана акцыянернае таварыства «Надзея». Што ж падштурхнула кіраўнікоў гаспадаркі прыняць такое рашэнне! У сувязі з вялікім будаўніцтвам калгасу «Маяк» даводзіцца карыстацца банкаўскімі крэдытамі. Трэба было прасіць сродкі ў банка і на гэты раз. Але з улікам запазычанасці выплата банку працэнтаў за чарговы крэдыт будзе большай, чым калі калгас выпусціць акцыі і прадасць іх сваім калгаснікам. Тонкі разлік і прадуманасць усёй інвестыцыйнай палітыкі прывялі праўленне гаспадаркі да прыняцця рашэння аб прыцягненні асабістых зберажэнняў для развіцця грамадскай вытворчасці.**

**Новая справа выгадная як калгасу, так і яго працаўнікам.**

**Стаўка гадавога прыбытку — чатыры працэнты намінальнай вартасці акцый. Гэта цвёрдая лічба, яна не залежыць ад якіх-небудзь абставін. Пры ўмове ж, што калгас павялічыць за год планавую рэнтабельнасць на пяць працэнтаў, у якасці дывідэндаў трымальнікі акцый будуць мець ужо не чатыры, а пяць працэнтаў вартасці акцый.**

**Пакуль у калгасе «Маяк» такіх папер выпушчана на 1 мільён 200 тысяч рублёў. Продаж акцый працягваецца.**

**НА ЗДЫМКАХ: загадчык вытворчага ўчастка калгаса «Маяк» Пётр ПАРГАЙСКІ (злева) адным з першых стаў членам акцыянернага таварыства «Надзея». Побач з ім вадзіцель С[illegible]ей КУРАКІН; звыш 650 тысяч рублёў у год атрымлівае калгас ад продажу [illegible]ынках Мінска, Вільнюса і іншых гарадоў вырашчаных гваздзікоў. Дзякуючы наяўнасці свабодных грошай у касе гаспадаркі, тут запланавалі здачу дадатковай плошчы цяпліц — 0,4 гектара; таксама капіталаў акцыянернага таварыства пайшла і на будаўніцтва цэлай вуліцы жылых (ніжні здымак) дамоў. Хутка многія калгаснікі атрымаюць ключы ад новых кватэр.**

**Фота Л. ЛЕАНІДАВА.**



## ПІСЬМЫ ЗБЛІЗКУ

# ДЗЁННЫ СТАЦЫЯНАР

«Дзённы стацыянар» — такая шыльда з'явілася нядаўна на другім паверсе Вілейскай раённай палікінікі. Першыя пацыенты гэтага незвычайнага стацыянара засталіся задаволены.

— Новая форма лячэння для нас вельмі зручная, — дзеляцца яны сваімі ўражаннямі. — Асабліва для жанчын, якія маюць малых дзяцей. Прыходзім мы сюды ў 8 гадзін раніцы і да шасці вечара маем магчымасць прыняць увесь комплекс лячэбных працэдур.

У новым аддзяленні дзве палаты на чатыры ложкі кожная. Хворыя могуць атрымаць у паліклініцы падводны масаж, іншыя водныя, фізіятэрапеўтычныя працэдуры, заняцца лячэбнай фізкультурай.

Расказвае намеснік галоўнага ўрача па палікінічнай рабоце Міхаіл Якубоўскі:

— Наша аддзяленне дзённага стацыянара пакуль першае ў вобласці. Таму і ад гасцей адбою няма. Прыязджаюць калегі, паказваем і расказваем ім усё. Сёння новая форма арганізацыі медыцынскай дапамогі зарэкамендавала сябе добра. За 4 месяцы ў дзённым стацыянары лячылося каля 200 чалавек.

А ў Любані, цэнтральнай сядзібе саўгаса-аграфірмы «Любань» Вілейскага раёна, адкрыўся новы гандлёвы цэнтр. У прасторных залах размясціліся прадуктовыя і прамтаварныя магазіны, магазін гаспадарчых тавараў, кніжны, сталовая.

Пакупнікам падабаецца новае, сучаснае абсталяванне ў гандлёвых залах. Шмат наведвальнікаў і ў сталовай, якую прыгожа, у народным стылі афармілі мясцовыя ўмельцы.

Н. ВАЛЫНЕЦ.

*ВРЕМЯ БОЛЬШИХ ПЕРЕМЕН*

# ОБНОВЛЕНИЕ

## ЗАМЕТКИ ИСТОРИКА НА ПОЛЯХ БРОШЮРЫ С МАТЕРИАЛАМИ XIX ПАРТКОНФЕРЕНЦИИ

**II.**

Еще один момент, на который хотел бы обратить внимание: подход партийной конференции к проблеме перестройки внешней политики СССР. Наш нынешний взгляд на себя, на свое прошлое и в этой области предельно честен, самокритичен. Лучше чем прежде понимая глубину взаимосвязи внутренней и внешней политики, значительное число моих соотечественников соглашается сегодня с тем, что нарушение законности, репрессии в предвоенные и послевоенные годы не могли не казаться многим угрозой. Давали мы поводы плохо думать о себе и в последующем. Как писал некоторое время назад в «Литературной газете» Евгений Евтушенко: «Страшная правда о сталинских лагерях, аресты диссидентов, злоупотребление психиатрией, высылка академика Сахарова, наши войска в Афганистане — все это, выстраиваемое в один ряд и раздуваемое определенным образом,.. работало на развенчивание героического ореола, доведя дело чуть ли не до антихристова образа «империи зла».

Убежденные в своем праве на историческое наследие человечества, мы далеко не всегда умели посмотреть на себя со стороны, — не зря нам до сих пор вспоминают, например, брошенное Хрущевым обещание «похоронить» капитализм. Сегодня нет резона заново доказывать, что слова тогдашнего советского премьера были всего лишь неудачной политической метафорой. Важнее напомнить другое: реформы того же Хрущева одобрял такой заклятый антикоммунист, как Уинстон Черчилль. И сегодня, за немногим исключением, мы наблюдаем на Западе не просто интерес, но положительное отношение к нашей перестройке. Что, руководители западных держав, политики, политологи, деловые люди желают успеха социализму? Очевидно, дело в ином: всех их устраивает то, что мы отходим от тоталитарного режима с его трудно прогнозируемой политикой.

В докладе Горбачева на партийной конференции отмечалось: в недавнем прошлом мы не всегда использовали возможности обеспечить безопасность государства политическими средствами; СССР дал втянуть себя в гонку вооружений, что негативно сказалось на социально-экономическом развитии страны, на международном положении в целом.

Сегодня в основу советской внешней политики положено новое мышление. Освобождаясь от стереотипов сами, мы помогаем двинуться по этой дороге многим другим, — не зря ведь в последнее время такое число крупных деятелей Запада заявляет о своем «новом открытии» Советского Союза. Вот конкретный показатель изменения уровня доверия в мире с нашей помощью, нашими усилиями: впервые в истории СССР и США удалось заключить договор об уничтожении целого класса ядерного оружия (РСМД).

* * *

Человечество ныне подошло к тому рубежу, с которого самый раз начинать строительство мира без насилия. Крупным и важным блоком в фундамент такого мира легла бы договоренность о сокращении на 50 процентов стратегических наступательных вооружений. Понятно, что и оно стало бы только первой ласточкой, еще не способной сделать весну ненасильственного мира, подлинную весну человечества. Необходимы полное уничтожение ядерного оружия, отказ от войн вообще, резкое сокращение обычных вооружений. Чернобыль — напоминание: чтобы организовать сегодня ядерный апокалипсис, нет нужды применять термоядерное оружие, достаточно обычным оружием разрушить многочисленные АЭС. «Колокол Чернобыля» в этом смысле прозвенел по человечеству. Все ли расслышали звон? Не только в мире — у нас, в СССР?

Разумнее всего было бы, конечно же, не откладывая дела в долгий ящик договориться всем о немедленной ликвидации всего ядерного потенциала. Пока, однако, такой поворот событий не просматривается. Будем ждать у моря погоды под звон все того же колокола? Или выберем путь более трудный, но и более разумный? Мне представляется, что великим державам, всерьез задумавшимся о выживании и его законах, разумно было бы немедленно приступить к одностороннему ядерному разоружению. Я солидарен с суждением Алеся Адамовича о том, что необходимо «проявить в вопросах разоружения максимальную, именно горбачевскую смелость... Смело маневрируя, мы иногда можем пройти не только свою половину пути в проблеме, разрешаемой взаимно, обоими блоками, но и продвинуться на несколько шагов дальше соперника, заставляя тем самым и его поступать так же».

Видимо, на первых порах пришлось бы оставить небольшую, но достаточную для ответного удара, часть ядерного оружия, напрочь отказавшись от дальнейшего его производства. Но не для того оставить, чтобы пустить его в «дело» при якобы нужде, — такая цель изначально безумна и преступна. А для того только, чтобы знали те, кому положено знать, что у нас (у них) оно есть. Чтобы зарубежные (и наши) идиоты знали, что на их (наш) идиотизм (попытку уничтожить противную сторону ракетно-ядерным ударом) мы (они) можем (могут) ответить нашим (их ) идиотизмом, ибо у нас (у них) имеются соответствующие друг другу идиоты.

* * *

Чернобыль напомнил: беда и прогресс идут вместе, второго не было и нет без первой. Можно ли из этого выводить, что так и должно было быть, что так и будет всегда? Человечество уже подошло к краю пропасти, уже глядит в бездну. Бездумное движение ко все большему могуществу привело к всеобщей безнравственности: жизнь отдельного человека во все века ценилась недорого, ядерное оружие и жизнь самого человечества превратило в ничто. Само неосознание нами реальности самоуничтожения человечества говорит об этом. И в этом смысле прогресс, которого человечество добивалось и добилось, оказался по сути своей величиной с отрицательным знаком, процессом реакционным.

Но «не было бы счастья, да несчастье помогло», как говорит русская пословица. Чернобыль и другие чрезвычайные происшествия вынуждают человечество попытаться свести концы с концами в своей судьбе. Угроза термоядерного апокалипсиса, быть может, явится той каплей в чаше терпения многострадального человечества, которая положит предел вообще всем войнам. Это предвидел Ленин. Не исключено, что она же положит конец и гражданским войнам, коль скоро и они могут перерасти в войны между государствами: так не раз бывало в прошлом, так бывает и теперь.

Классовое общество прогрессировало от одной формации к другой, каждая последующая из них была выше предыдущей по уровню развития производительных сил. Но какой ценой достигался этот прогресс? Ф. Энгельс писал: «...история, пожалуй, самая жестокая из всех богинь, влекущая свою триумфальную колесницу через горы трупов не только во время войны, но и в периоды «мирного экономического развития». Поэтому точнее будет говорить не о прогрессе в чистом виде, а о так называемом прогрессе. Путь к прогрессу человечество прокладывало в нечеловеческих условиях. Неся на себе «родимые пятна» этих условий, прогресс, рождаясь в муках человеческих, сам порождал все новые основания для продолжения тех же мук. Можно считать венцом этого процесса создание термоядерного оружия, способного покончить с муками людей, покончив с ними, отправив их в небытие. И это — при таком развитии производительных сил, которые способны обеспечить миллиардам живущих блага в потребных количествах... Как сказал почти сто лет тому назад Ф. Энгельс, «...мы люди, к несчастью, глупы, что никак не можем найти в себе мужества осуществить действительный прогресс, если нас к этому не принудят страдания, которые представляются почти непомерными».

Ныне, когда человечество подошло к той черте страданий, которые могут стать непомерными (без какого бы то ни было «почти»), есть резон, очевидно, задержать внимание в том числе и на проблеме революционного насилия.

Классики марксизма, напомню, категорично пропагандировали насильственную революцию, потому что из общества, построенного насилием и живущего им же (во всех его видах и формах), иначе не выйти. Нельзя убедить насильников отказаться от насилия, поскольку нельзя их убедить в добровольном отказе от власти. «Убедить» их можно только силой, то есть насилием же.

Но насилие насилию рознь. Одно дело — насилие в дотермоядерную эпоху, другое — в термоядерную.

Мы сегодня живем в мире, в котором общечеловеческие интересы объективно выступили на первый план. Это точка зрения партконференции. Задача состоит в том, чтобы это «объективное» подкрепить субъективным. И тут пример подать должны мы, представители научного социализма. «Научный» — значит, во-первых, чуждый сталинской утопии казарменного социализма. А во-вторых, базирующий внутреннюю политику государства, строящегося на его основе, на науке и только на ней.

Мы должны помнить марксово: «коммунизм стоит выше противоречия между пролетариатом и буржуазией». Приоритет должен быть безоговорочно отдан на деле (во всех его ипостасях) тому, что является общим для жизни на Земле. Противостояние капитализма и социализма — явление объективное. Важно предотвратить попытки разрешить его насильственными средствами. Очевидно, насущной задачей для нас является создание такого образа жизни, материальный, культурный, демократический уровень которого был бы настолько высок и привлекателен для масс всего несоциалистического мира, что война против социализма исключалась бы напрочь. Не автоматически, разумеется, а в силу общественного мнения человечества, которое могло бы сложиться на основе реализации ленинского завета, оказывать влияние на мир нашими успехами в хозяйственном, культурном и демократическом строительстве. Тогда, не исключено, сама собой снимется и проблема насильственной революции против капитализма. Ибо сила того же общественного мнения народов несоциалистического мира заставит буржуазию добровольно уступить власть трудящимся массам.

Для решения задачи реализации преимуществ социализма потребуется, очевидно, резкое сокращение военных расходов. Преодоление насущных внутренних проблем расправит плечи советскому народу. А пропаганда социализма вступит в совершенно новую полосу своего развития, ибо она будет пропагандой не столько словами, сколько новым обликом социализма, его процветающим, демократическим, глубоко человечным содержанием.

Итак, не только судьба социализма, но и судьбы мира сегодня напрямую зависят от успеха перестройки, темпов и качества решения ею задач, прежде всего, внутренней жизни СССР. Перестройка — основа для строительства со всем человечеством нового мира без ядерного оружия, без войны, без насилия.

**Агдас БУРГАНОВ,**
**профессор.**
(АПН).

# НА ЯЗЫКЕ ДРУЖБЫ

**В июле в пионерском лагере под Минском отдыхали дети и внуки соотечественников из нескольких европейских стран. В лагере они были вместе с советскими ребятами: вместе играли, ходили на прогулки, беседовали. Советские и иностранные дети стали друзьями. На прощанье они обменялись адресами, сувенирами, расставаясь, мечтали о встрече. О впечатлениях наших гостей мы уже рассказывали на страницах «Голасу Радзімы». Сегодня мы печатаем заметки белорусской девочки Ольги ВАСИЛЕНОК.**

Этим летом мне довелось по путевке отдыхать в пионерском лагере «Зеленый Бор». Получилось так, что я попала в одну группу с ребятами из Голландии, Бельгии, ПНР и Швеции. О том, как мы проводили время, отдыхали, развлекались, мне и хочется рассказать.

Утром, 1 июля, мы приехали в лагерь, нам показали наши палаты, и после знакомства с воспитателями, вожатыми, детьми мы начали устраиваться. Оказалось, что большинство иностранных ребят совершенно не говорит по-русски. Это была одна из немногих трудностей. Но, как известно, язык дружбы помогает, и скоро мы уже понимали друг друга с полуслова. Мы все очень сдружились. Все задания, которые нам поручались, выполнялись сообща, выслушивалось мнение каждого. Больше всего я подружилась с польской девочкой Эвой Базылюк. Она веселая, интересная, жизнерадостная, и поэтому мы быстро нашли с нею общий язык.

Чтобы гости лучше могли узнать город, в который приехали, его историю, хозяйство, культуру, для нас общество «Радзіма» организовало поездки. Первая была по городу-герою Минску. Благодаря экскурсоводу, она прошла интересно и познавательно. Через несколько дней — поездка в Хатынь и на Курган Славы. Хатынь произвела на ребят неизгладимое впечатление. Но все же еще большее впечатление оставил музей Отечественной войны. Как потом признавались сами ребята, они слышали и читали о второй мировой войне, но не могли поверить, пока не увидели экспонаты музея, насколько это страшно.

Тем временем в лагере готовились спортивные мероприятия. Наши мальчики играли в футбол со сборной лагеря и... проиграли. Но это нисколько не повлияло на их отношения, наоборот, ребята из сборной пригласили к себе в команду нескольких наших игроков.

Сначала нас в наших гостях удивляло все: то, как они учатся, одеваются, держат себя в общественных местах. Казалось, что это люди из другого мира. Но чем ближе мы узнавали друг друга, тем больше понимали, что это такие же, как мы, дети, что они тоже многому удивлялись в нашей жизни, что у них такие же проблемы, как и у нас. Например, куда пойти учиться, какую выбрать профессию.

В конце смены была одна из самых запомнившихся поездок, в филармонию, на концерт ансамбля «Хорошки». Концерт был настолько прекрасен и по исполнению, и по декорациям, и по костюмам, что разговоров о нем хватило до следующего дня. Но всему на свете когда-то приходит конец. Так и подошел конец смены. Девочки нашей палаты подготовили на закрытие русский народный, а мальчики шуточный танец. Вечером для нас ребята нашего отряда подготовили концерт. Потом была дискотека. Спать легли поздно и долго не спали, все разговаривали.

Настало и последнее утро. Сразу после завтрака нам сказали собираться, так как скоро подъедет автобус. Ну, вот. Вещи собраны, автобус подошел.

Последние пожелания, обмен адресами. За мной приехали, и поэтому мне было вдвойне трудно. Еле удерживая слезы, я смотрела на ребят, которые заходили в автобус. Устроившись, они высовывались в окна, махали руками и кричали: «Ольга! Ольга! Ольга!..» Навсегда останется в моей памяти это прощальное утро.



*Veteran of the Great Patriotic war Nikolay Zhdanovich participated in the liberation of Byelorussia, the Baltic republics, Czechoslovakia. During the years of war he was awarded with many orders and medals of the country. Nikolay Zhdanovich very often meets with the young people, tells them about the years of war, his comrades in arms, tries to transfer to the young generation his love to Motherland.*

*ON PHOTOS: Nikolay ZHDANOVICH; meeting with students of Minsk secondary military school named after Suvorov.*

*Photos by V. ALESHKEVICH.*



# THE SOVIET PARLIAMENTARY SYSTEM

**The decisions of the 19th Party Conference and the july 1988 Plenary Meeting of the CPSU Central Committee are aimed to ensure the sovereignty of the Soviets as the basis of the socialist state and the working people's self-management. This is central to the political reform. But in all probability it would be a serious exaggeration to say that everything has already been calculated, weighed and measured. I would therefore like to offer a few questions for discussion that could, I believe, be instrumental in enhancing the efficiency of the Soviets.**

### A TWO-CHAMBER LOCAL SOVIET

The Soviets must become bodies with free control over finances and material resources. Only rarely does anyone remember that the Soviets' real sovereignty can be realized only if the economic interests of socialist enterprises, cooperatives and work-force units are represented in them.

Experience has proved this. Thus, the City Executive Committee of Poti (Georgia) has formed a cost-accounting association of all the enterprises existing on the city's territory. The City Executive Committee of Volzhsky (Volgograd Region) has set up a council of the directors of enterprises who coordinate their actions in the city's interests.

But so far these are merely episodes from the economic life of the local Soviets, which do not affect their structure. In this connection, I believe, the experience of socialist Yugoslavia merits attention: the local bodies of power — skupštinas — have a three-chamber structure, with one chamber veće (council of organized labour) representing the work-force units. I think that in our country, too, it would be advisable to guarantee representation in the local council of work collectives located on their territory.

This is a crucial issue. If, through self-management and cost accounting at enteprises as well as the cooperative movement, we succeed in making workers the masters of production, and connecting the interests of enterprises and units directly — through representative assemblies — with the work of the Soviets, then we will be able to overcome the working people's alienation from public ownership and from power. And the elections to the Soviets will be real, because the electors will be economically interested in the effectiveness of their performance.

When drafting the new legislation on the Soviets, it would be worth discussing the question of a two-chamber structure of local Soviets. The first chamber, elected on the territorial principle, could represent the electors of territorial precincts, Party and public organizations. Its range of competence should extend to socio-cultural and everyday issues, protection of law and order, and the development of the Soviets.

The second chamber, elected on the production principle, will deal with financial and budgetary issues and problems linked to pooling the resources of enterprises and ensuring the territory's overal economic development.

### LAW ON RESPECT FOR THE SOVIET

The question of the legal aspects of the Soviets' sovereignty merits special attention. We lack a sufficiently sophisticated legal mechanism for implementing the acts of Soviets. Difficulties in fulfilling the Law on State Enterprise have shown that even laws of the USSR may have no all-round guarantees. Things are even more complicated with decisions passed by local Soviets. Wouldn't it be advisable in this context to pass an act on respect for the Soviets?

Let us assume that a local Soviet passed a decision on temporarily closing a plant or factory polluting the environment. (And it should have this right because it must solve all local issues on principles of self-management.) If the management of the enterprise refuses to comply, the Soviet sends the decision to the court and the latter, having satisfied itself that it has been passed within the limits of competence of the given authority, issues a writ of execution which is then fulfilled by the bailiff and the militia. Moreover, the administrators, who showed disrespect for the Soviet, are made legally answerable for their act.

This is just one possibility — there may be others. But one thing is clear: in the law-governed state which we are trying to build there must be a clear-cut legal procedure for implementing any decision of the Soviet (just as there exists the procedure for executing court rulings and sentences).

### PRESIDENTIAL POWERS THE SOVIET WAY

We often invoke Lenin's just words about the Soviets as a higher stage of state organization as compared with parliamentarism. But Lenin wrote that the Soviets must combine "the advantages of the parliamentary system with those of immediate and direct democracy". But for some reason we have not given thought so far to the "advantages of the parliamentary system". The 19th Party Conference mapped out ways to use these advantages: transforming the Supreme Soviet into a permanently functioning body; adopting some elements of the "separation of powers" principle by not electing members of the government to the corresponding Soviet; instituting a committee of constitutional supervision.

But I find it unjustified that we have virtually overlooked the powers the chairman of the Soviet himself will be vested with. For instance, the introduction of the post of Chairman of the Supreme Soviet of the USSR is an interesting and unusual step in the development of democracy, and close attention must be given to its realization. In drafting amendments to the Constitution it would be advisable to discuss in detail the legal status of this new post. The Chairman should not be viewed as the autocratic head of state vested with presidential powers. Under the Soviet form of government there must be no official standing above the Congress of People's Deputies and the Supreme Soviet. This would be at variance with Article 2 of the USSR Constitution according to which: "All power in the USSR belongs to the people. The people exercise state power through the Soviets...". Besides, given a one-party system and the tragic experience of the personality cult, and given our lack of parliamentary traditions, the introduction of one-man presidency is hardly expedient and could even be dangerous. Some rights of the Chairman of the Supreme Soviet may look like presidential powers, but there is no need to grant him such traditionally presidential privileges as the right of veto (as has been proposed), the right to form the government and disband representative institutions.

### HOW TO RECALL A DEPUTY?

The practice of recalling deputies from Soviets needs to be radically reformed. Over 9,000 people's deputees have been recalled from the Soviets at all levels during the past 30 years. Is this a lot or a little? Considering that in the past ten years alone the functions of deputies have been exercised by some ten million persons, this is an extremely insignificant figure. On the other hand, some people in our Soviets see their deputy's seat as something that comes with their post, others got theirs on the allotment principle.

The existing legislation envisages two reasons for recalling a deputy: 1) on the recall by electors; 2) by decision of the Soviet itself taken on the deputy's personal application or on the grounds of a court sentence. In practice the officials of Soviets prefer to remove the obviously discredited deputies on the application of the latter in connection with "illness", "moving to another city", and the like. The result is that the deputy leaves the Soviet without even notifying his electors. I think that it would be advisable to envisage a rule: under no circumstances (except death) can a deputy be deprived of his seat without the consent of electors. The people have elected their representative to the Soviet, and they alone can give the final verdict to his work.

### FROM EARLY YEARS

A considerable reserve for the development of Soviets lies in the mastering of political culture by citizens, deputies, Party functionaries and government officials. Democracy has to be learned early on. For instance, many American schools have special classes: in this class pupils distribute among themselves the roles of the president, senators, electors, etc. Such a game enables children to get an insight into the structure of the nation's political system. Perhaps, our schools should also arrange such games?

**Felix RUDINSKY, LLD**

### A SOCIETY OF YOUNG AUTHORS

A Society of Young Authors has been formed in Byelorussia. Its executive board was elected at the inaugural session of the society. This new association has as its aim to encourage the study of literature and to promote Byelorussian literature and culture. The society intends to establish close ties with young artists and composers from other republics.

### A SEMINAR OF TRANSLATORS FROM SIX COUNTRIES

In the past ten years 162 books by Byelorussian authors have been published in socialist countries. Over the same period 123 books by writers from socialist countries have been printed by Byelorussian publishing houses.

The BSSR Writers' Union sponsored a seminar for translators of Byelorussian literature from six countries: Bulgaria, Czechoslovakia, Hungary, the GDR, Poland and Yugoslavia. The seminar was held in Minsk. Its guests could see for themselves the Republic's life and cultural achievements. Together with the department for translation and international relations, they took part in a session of the Presidium of the BSSR Writers' Union which discussed problems of translation.

### A BYELORUSSIAN TRANSLATOR IS AWARDED THE MEDAL BY THE POLISH PEOPLE'S REPUBLIC

Joseph Semezhon's translations of foreign authors are well known in Byelorussia. Recently, his translation of Adam Mickiewicz's poem "Pan Tadeusz" was published in Minsk by the Khudozhestvennaya Literatura Publishing House. For this service to the Polish People's Republic Joseph Semezhon was awarded a Gold Medal.

### AN ENCYCLOPAEDIC REFERENCE BOOK ABOUT YANKA KUPALA

The Byelorussian Soviet Encyclopaedia Publishers issued an encyclopaedic reference book about Yanka Kupala, one of the founders of modern Byelorussian literature.

The articles in the book examine the philosophical, socio-political, aesthetic and pedagogical views of the popular poet. They were writen by well-known literary critics and writers of Byelorussia, the Ukraine, Uzbekistan, Turkmenia, Georgia, Latvia, Kazakhstan and Tajikistan.

